# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (268) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 16 КРАСАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.










## ГАСПАДАРСКІ АБАВЯЗАК

Вясна заўсёды настройвае нас аптымістычна. Калі з першым подыхам вясны гаспадар выйдзе ў поле і пачне сеяць у свежую, узрыхленую глебу адборнае яравое збожжа, ён робіць гэта з любасцю і хваляваннем. Ён верыць, што зямля - маці не падвядзе яго і верне зерне ў постаці залатых калоссяў пшаніцы, аўса, ячменю.

Чалавек з прыродаю даўні сябра. Але хоць ён і ведае, што ў прыродзе нічога не гіне, ён аднак уласнымі рукамі дапамагае ёй выдаць багаты ўраджай. Бо як кажа прымаўка: хто працуе, той мае.

Вітаючы сёлеташнюю вясну, мы спалучаем з ёй асаблівыя надзеі. Выключна працавітае было сёлеташняе прадвесне. Апрача штодзённай працы, мы, як добрыя гаспадары, абмяркоўвалі і ставілі заданні на будучыню. Гэтыя заданні сёння маюць моц дакументаў у выглядзе выбарчых праграм, заўтра — яны павінны пераўтварыцца ў жывую форму: у новыя дарогі, школы, шпіталі, заводы.

Але так, як зерне, пасеянае ў полі, патрабуе чалавечага догляду, так і тут: бачаннем жураўля не зловіш. Добрыя накрэслілі мы планы, цяпер трэба іх, як гэта гаворыцца, уводзіць у жыццё — добра гаспадарыць. А гаспадарыць — не грушы трэсці. Кожная гаспадарка ў аграмаднай ступені залежыць ад гаспадара. А што тады казаць аб такой гаспадарцы, як краіна, ваяводства, павет ці хоць бы паасобныя грамады.

Тут патрэбныя асабліва дбайныя гаспадары. І мы іх маем. Нашы кандыдаты ў паслы Сейма і ў радныя — гэта людзі, якія сваёй ахвярнай працай і вопытам здабылі давер грамадскасці і якія поўнасцю гарантуюць здзяйсненне нашых намераў і намаганняў.

Не маёнтак высоўваў іх на гэтыя адказныя грамадскія пазіцыі, не нацыянальнае паходжанне ці веравызнанне а іх праца. Гэта самая лепшая выбарчая «рэклама» і гэта самы каштоўны здабытак народнай улады, калі чалавека ацэньваюць па яго працы.

Варта аб гэтым прыпомніць у дзень выбараў, варта ўзяць гэта ў сэрца.

Хай кожны з нас, і ты, і я, і твае і мае суседзі, з чыстым сумленнем галасуюць за спісак кандыдатаў Фронта адзінства народа, бо гэта наш спісак і нашы кандыдаты твае і мае, усіх нас — сумленных грамадзян Народнай Польшчы.

Усе на выбары! Усе галасуем за кандыдатаў Фронта адзінства народа! Гэта наш гаспадарскі абавязак.

## Не „А", аднак ужо не „Б"

Не будзем Табе, дарагі чытач, прыпамінаць, як выглядала калісь нашае ваяводства, а пакажам (праўда толькі часткова), як яно выглядае ў нашыя дні.

Дасягненні, якімі справядліва ганарымся, гэта таксама і Твой уклад, Твая праца, Твае дасягненні.

Дык, ці ведаеш Ты, што...

...на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства праведзена электрыфікацыю ў 66.650 аднаасобніцкіх гаспадарках;

...Беласточчына мае 4.718,6 кіламетра дарог з цвёрдай мастаой;

...у нас 2.519 мастоў даўжынёю ў 20.010. 1 метра;

...у ваяводстве ёсць 1.327 радыёфікаваных мясцовасцей;

...жыхары Беласточчыны маюць 37.654 радыёпрыёмнікі;

...ваяводства мае 4.592 пункты рознічнага продажу, якія забяспечваюць насельніцтва таварамі першай патрэбы;

...на Беласточчыне ёсць 23 шпіталі з 4.803 ложкамі, 64 асродкі здароўя, 51 радзільных ізб, у якіх працуе 673 лекараў, 185 зубных лекараў, 45 фармацэўтаў, 1689 санітарак, 273 фельчары, 460 акушэрак;

...у ваяводстве працуюць 292 публічныя бібліятэкі з 1.182.694 кнігамі, якімі карыстаецца 159.815 чытачоў;

...ваяводства мае 111 кіно з 13.610 месцамі, 9 дамоў культуры і 141 святліц;

...на Беласточчыне 1497 пачатковых школ, 30 агульнаадукацыйных ліцэяў, 96 прафесіянальных школ, 5 мастацкіх і 3 вышэйшыя школы;

...на тэрыторыі ваяводства жыве 1.102.000 жыхароў.




## ПРЫПЕЎКІ

Нешта мне не верыцца,
Што мой мілы жэніцца,
Жэніцца, вянчаецца
Ўся любоў канчаецца.

Гаварылі на мілога,
Што худы і нізенькі;
Паглядзела у нядзелю
Які ён мне блізенькі.

Цераз стрэху голас чую,
Маці з кімсь ругаецца;
За якою ж свалатою
Дочанька ганяецца.

На стале стаіць бутэлька,
На ёй сіняя пячаць;
Глядзі мама на мілога,
Ці харошы будзе зяць.

На стале стаіць гармонь,
Пад сталом гітара,
Ў нас дзяўчаты
дарагія –
Па два злоты пара

На гары стаіць карова,
Немым голасам раве,
Адмарозіла капыты
Ніхто замуж не бярэ.

Каб я знаў ды не браў
Такую маленьку;
Цябе маці гадавала
Як курку рабеньку.

Запісаў
Юрка Скепка
ў Альхоўцы




### У РЭСТАРАНЕ

Адзін экскурсант зайшоў у сталовую ды папрасіў абед.

Афіцыянт прынёс яму салату. Раптам на стол ускочыла курыца.

— Што гэта за парадкі?! — раззлаваўся экскурсант.

— Не бойцеся, яна салаты есць не будзе, толькі чарвякі выбярэ, — спакойна адказаў афіцыянт.

**Ніна Янюк**
Барысаўка.

### ПАСЛЯ СЕСІІ

— Вы, сябры, — кажа старшыня да радных, — праз усю сесію нават ратоў не адчынілі.

— Няпраўда, — адказаў адзін радны. — Калі вы прамаўлялі, дык я пазяхаў на ўвесь рот.

**Алесь Савіцкі**
Белявічы

### ЦІ ЗЛАЎЛЮ

На перон убягае задыханы грамадзянін:

— Ці злаўлю яшчэ цягнік да Бельска? — пытае ён дзяжурнага руху.

— Можаце паспрабаваць, — адказаў той, — цягнік адышоў пяць мінут таму.

**Мікола Савіцкі**
Беласток

### НЕ ВЕДАЮ

Доктар прыехаў да хворага і пытае:

— Што вам баліць?

— Не ведаю.

— Дзе баліць?

— Не ведаю.

— Калі захварэлі?

— Не ведаю.

— Доктар, раззлаваўшыся, кажа:

— Ідзіце да аптэкі і купіце не ведаю што, ужывайце яго не ведаю як, то будзеце здаровы не ведаю калі.

**Ніна Юзвюк**
Плюцічы



**— Ведаеш, Фядос, гэта вельмі цікава, чым чалавек на вышэйшую ступень уваходзіць, тым менш бачыць што робіцца ўнізе.**

### КРЫЛЛІ

Вярнуўшыся з вуліцы, хлопчык пытае ў бацькі:

— Тата, у цябе ёсць крыллі?

— А хіба ж яны ёсць у чалавека?

— А я чуў, як старшыня ГС, дзядзька Хвёдар, казаў, што калі ты не будзеш як следуе працаваць, дык хутка паляціш са спулдзельні.

**Аркадзь Латоўскі**
Лесна

**— Чаму гэта ты ў жаночае адзенне прыбраўся?**

**— Жонка ў святліцу пайшла, а мне карову падаіць трэба.**

## ХТО ГАЛАВА СЯМ'І...

Сцяпан зараз пасля заручын з Верай пытаецца ў бацькі:

— Хто па-вашаму з'яўляецца галавой сям'і, муж ці жонка?

Бацька ўсміхнуўся ды кажа:

— Вазьмі, сынку, сто курэй і адну пару коней. Прайдзі ад хаты да хаты, ды пытайся: хто тут з'яўляецца галавой сям'і? Калі акажацца, што жонка, астаў курыцу. Калі муж — каня.

Сцяпан раздаў 99 курыц.

Аднак у адной хаце адказаў яму чалавек:

— Я тут галавой сям'і.

— А як ты гэта давядзеш? — пытаецца Сцяпан. Тады муж паклікаў жонку. Яна згадзілася, што муж галава.

— Ну, дык бяры аднаго каня.

— Добра, вазьму таго буланага.

Але тут жонка па ягнула мужа за рукаў і нешта яму шапнула на вуха.

Муж і кажа:

— Э, мусіць буланага не вазьму. Дай лепш сівага...

Не браточку! — кажа Сцяпан, — цяпер дастанеш курыцу!

**Ніна Аляксеюк**
Палічн

## З ПЕСНЯЙ

Нядаўна за граніцай найшоўся цырульнік, які прыстасаваў музыку да прычоскі.

Калі ён падстрыгае кагосьці паводле апошняй моды, дык з рэпрадуктара плыве джазавая музыка. Тым, якія стрыгуцца «пад бокс», выконваецца марш «Тарэадор, смялей у бой». Аматарам прычоскі «пад польку» магнетафон выконвае польку - матылька. Цырульнік карыстаецца вялікім поспехам і пад музыку абрабляе людскія галавы, як качаны капусты.

Калі б узяць прыклад з гэтага цырульніка, дык можна было б увясці ў працу нашых устаноў шмат удасканаленняў. Хапіла б усяго толькі ўмантаваць магнетафоны і іграць наведвальнікам розныя мелодыі. Пад музыку весялей працавалася б, а наведвальнікам не даводзілася б скардзіцца на бюракратызм. Нездаволенымі былі б толькі грамадзяне, якія не разбіраюцца ў музыцы. Але такіх у нас мала. Напрыклад, возьмем Загс. Уваходзіць маладая пара зарэгістраваць свой шлюб, а насустрач нясецца песня:

...Ты прыдзі да мяне
вясною,
Кветкаю прыдзі...

Якая ж маладуха не расцвіце ружай пры такой песні? Калі зноў прыдзе пара разводзіцца, дык працаўнік Загса пераставіць плёнку магнетафона і ў пакоі загучыць:

...За свабоду сваю
Усёй душой пастаю...

Як вядома, яшчэ не ўсе жыхары вёсак з'яўляюцца членамі сельгасгурткоў. Прыходзіць, напрыклад, гаспадар у грамадскую раду па сваіх справах, а бархатны галасок пяе:

...Трактары за
трактарамі,
Скібы тлустыя пад
сонцам
Рассцілаюцца радамі...

Пераконаны гэтым у карысцях механізацыі, гаспадар выбягае з грамадскай рады ды спяшыць запісацца ў сельгасгурток.

У час прызыўной камісіі, на зборных пунктах РКУ магнетафоны грымяць:

...З Белавежскай
пушчы-хаты
Выпраўляў дуб
расахаты
Маладых сыноў,
Слаўных жалудоў...

Пры такой бадзёрай песні кожны навабранец адчувае сябе героем ды ідзе паходным маршам прост ў вайсковую часць.

Калі селянін прыходзіць у ГС за мінеральнымі ўгнаеннямі або будаўнічымі матэрыяламі, а рэферэнт заняты нейкімі асабістымі справамі, або зусім не хоча аформіць справы, дык ён націскае кнопку і з магнетафона нясецца:

...Любы мой, прыдзі ў
суботу
Як засвішчуць кулікі...

Селянін адразу разумее, што справа адкладваецца на даўжэй, таму, што кулікі свішчуць не ў кожную суботу.

Знаючы прымаўку: — «Не намажаш — не паедзеш», — селянін на другі дзень бярэ з сабой тлустага гусака і яшчэ нешта. Рэферэнт, калі пабачыць «падаркі», адразу пераключае магнетафон і адтуль мілагучны галасок сустракае дзядзьку:

...Ты фіялкі прынёс
І запах вясной...

Гэта знак, што дзядзькава справа будзе ад рукі аформлена.

Як бачыце, людзі добрыя, дзякуючы выдумцы замежнага цырульніка можна на карысць працоўных удасканаліць дзейнасць нашых шматлікіх устаноў.

*Дзядзька Лявон*



**— Радны, уставайце! Вашая кадэнцыя ўжо закончылася.**